ПЕНСІЙНЫЯ РАДАСЦІ



ЯК ЖЫВУЦЬ ПЕНСІЯНЕРЫ Ў ЛАТВІІ

СТАР. 4–5

ТУТ І ЦЯПЕР

WWW.SVABODABY.NET

БЕЛАРУСКІЯ ЗОРКІ

КОЛЬКІ ЯНЫ КАШТУЮЦЬ У НОВЫ ГОД



СТАР. 6-7

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

29.11.12-5.12.12 г.

# ШТО ЯДНАЕ ДЫКТАТАРАЎ І ДЫНАЗАЎРАЎ

Гутаркі Аляксандра Лукашэнкі з замежнымі журналістамі апошнім часам адбываюцца па адным і тым жа сцэнару.



*А парадоксаў жыцця становіцца ўсё больш*

## “ГДЕ ВЫ ТАКОГО БОЛЬШЕ УВИДИТЕ?”

Кіраўнік Беларусі сцвярджае, што ў Беларусі ўсё не горш, чым на Захадзе. Таксама ён пагражае, што Еўропа атрымае напоўніцу, калі будзе злоўжываць санкцыямі ў дачыненні да афіцынага Менску.

*– Я не совсем понимаю, что такое диктатор, но с другой стороны, я сам себе по-доброму завидую. Я же последний и единственный диктатор в Европе. Нигде в мире такого нет*, – какетліва заявіў Лукашэнка журналістам агенцыі Рэйтэр, якія на гэтым тыдні завіталі да яго. *– Вы приехали, посмотрели на живого диктатора. Где вы такого больше увидите?*

> Цяжка ўявіць сабе, што Лукашэнка здольны адмовіцца ад улады нават на карысць уласных сыноў

Сапраўды, такое шчасце не напаткала больш ніводную сучасную еўрапейскую краіну. Таму карэспандэнты пацікавіліся, як доўга яшчэ Лукашэнка намерваецца кіраваць Беларуссю.

*“Я пожизненно не буду за эту должность держаться. Как только народ откажется от моих услуг, я портфель под мышку и уйду”* – адказаў той. Пытанне ж пра сына-пераемніка выклікала ў яго ледзь не абурэнне:

*– Никогда. Меня упрекают, что старшего сына готовит в преемники. Я клянусь, эту проблему я в своей семье со своими сыновьями даже не обсуждал.*

Сапраўды, цяжка ўявіць сабе, што Лукашэнка здольны адмовіцца ад улады нават на карысць уласных сыноў. У сваім уяўленні ён пабудаваў у Беларусі ледзь не камунізм.

*– В Беларуси более 90% товаров на прилавках собственного производства. И люди довольны ими. Мы умеем делать всё. Всё!* – лічыць кіраўнік дзяржавы.

Галаўны боль для нашай краіны, паводле Лукашэнкі, гэта Захад: *“Для нас главная проблема – это вы, Европа”*. Ён патлумачыў, што, як толькі ў ЕС пачынаецца крызіс, той пачынае менш купляць беларускае, што адразу адбіваецца на нашай эканоміцы.

Лукашэнка мяркуе, што і нестабільнасці ў Беларусі не больш, чым у Еўропе, і правы чалавека забяспечваюцца не горш, чым на Захадзе. Таму ўсе прэтэнзіі да сябе кіраўнік дзяржавы лічыць штучнымі. А на ўзмацненне санкцый пабяцаў адказаць асіметрычна:

*– Вас волнует сегодня нелегальная миграция? У нас 120.000 на территории Беларуси было афганцев, из азиатских государств, с Кавказа, людей, которые стремились попасть в ЕС. Мы защищали Европу. Вы нам за это платили? Вы начали нас душить! Сколько мы задерживаем взрывчатки, радиоактивных веществ на границе?! Мы не можем закрыть глаза, что к вам повезут радиоактивные материалы, взрывчатку. Мы не можем пока. Но мы вас предупреждаем: «Ребята, прекратите нас душить!» Не надо нас давить. В противном случае мы закроем глаза и на эти вещи.*

*Заканчэнне на стар. 3*

НАВІНА

## САЛІДАРНАСЦЬ З “НОВЫМ ЖЫЦЦЁМ”

**Аб’яднаная грамадзянска япартыя (АГП) выказвае салідарнасць з вернікамі царквы «Новае жыццё» і звяртаецца да мітрапаліта Філарэта з прапановай асудзіць дзеянні ўлад у дачыненні да царквы. Пра гэтагаворыцца ў заяве, прынятай палітрадай АГП, паведамляе БелаПАН.**

Як адзначыла прэс-сакратар АГП Ганна Красуліна, свабода сходаў, веравызнання і свабодасумлення гарантуюцца Канстытуцыяй Беларусі. «Аднак гарант Канстытуцыі — прэзідэнт сам не выконвае Канстытуцыю і не гарантуе яе выкананне», — сказала Красуліна.

«Таму мы звяртаемся да Філарэта. Па-першае, гэта чалавек, да якога гарант Канстытуцыі прыслухоўваецца.

Па-другое, яго аўтарытэт у грамадстве бясспрэчны, яго слова важкае. Ну і па-трэцяе, мы лічым, што і праваслаўная царква, і „Новае жыццё“ — усё адно хрысціяне, і „Новаму жыццю“ цяпер патрэбна падтрымка прадстаўнікоў іншых канфесій. Таму што калі цяпер выганяць з царквы пратэстантаў, потым возьмуцца за католікаў, а потым і за праваслаўных», — лічыць Красуліна.

Як паведамлялася раней, на 5 снежня гаспадарчы суд Мінска прызначыў прымусовае высяленне рэлігійнай абшчыны хрысціян поўнага Евангелля «Царква «Новае жыццё» з дома № 72 па вуліцы Кавалёва.

# А ВЫ СУТЫКАЛІСЯ Ў СВАІМ ЖЫЦЦІ З КАРУПЦЫЯЙ?

Улада ізноў заяўляе пра чарговы віток "бязлітаснай" і "рашучай" рабацьбе з карупцыяй. Наскольні гэтая барацьба асуджаная на поспех, разбіралася "Тут і цяпер".

**АЛЕСЬ МАКАЕЎ, РУХ САЛІДАРНАСЦІ "РАЗАМ":**

### "КРАДЗЕЦЦА ПАТЭНЦЫЯЛ НАШАЙ ПРАМЫСЛОВАСЦІ".

– Прадпрымальнікі, на жаль, пастаянна знаходзяцца пад ціскам. Каб месца на рынку добрае атрымаць, трэба "падмазаць". Каб пытанне арэнды вырашыць, таксама трэба даць хабар. З падатковай трэба пытанні вырашаць. А якія зборы ідуць з прадпрымальнікаў на Дажынкі ці на калгасы... Гэта таксама варыянт карупцыі. Можа, больш акуратны і далікатны, не такі нахабны, як у Расіі, але прысутнічае. Ну а асобныя чыноўнікі ў нас, і гэта вядома, працуюць на "адкатах". Любыя дзяржпрадпрыемствы ў нас карумпаваныя чаму? Амаль кожны дырэктар цягне сваіх сваякоў на завод. Можа, у іх не атрымліваецца красці прадукцыю гатовай, але існуюць нейкія кантракты на пастаўкі сыравіны, выдаванне прымітыву за вышэйшыя тэхналогіі і "адкаты". Крадзецца, па сутнасці, патэнцыял беларускай прамысловасці. Гэта найбольш балючы варыянт карупцыі для Беларусі на сённяшні момант. І робіцца гэта абсалютна легальна, усё па законе. І за "адкаты" будуюцца катэджы, растуць рахункі на афшорах, і ўсіх усё задавальняе.



*Калі шчыра, не да жартаў*

**ВЕРАНІКА ВЫСОЦКАЯ, ЭКАНАМІСТ:**

### "НАМ ХАБАР УВОГУЛЕ НЕЎЛАСЦІВЫ".

– У нас не вельмі карупцыйная атмасфера дзякуючы ўнутранаму беларускаму парадку. Беларусы ўсё ж больш-менш цывілізаваныя людзі. Нашай краіне бытавы хабар вельмі неўласцівы. І гэта адна са станоўчых адметнасцяў беларускага народу. Беларусы больш падобныя да немцаў, чым, напрыклад, да ўзбекаў.

Карупцыя расце на той глебе, дзе ўсё вырашае чыноўнік. Там, дзе нешта робіцца не па законах, а па ягонай прыхамаці. Там, дзе няма кантролю, дзе няма акрэсленых норм закона, там ёсць добрая глеба для карупцыі. І пастаўлены ў такія ўмовы чыноўнік будзе поўным ідыётам, калі ён нешта не будзе рашаць на сваю карысць. Але адносна Беларусі, у нас не самая горшая сітуацыя. Канечне, карупцыя не можа быць зведзеная да нуля. Але сказаць, што яна ў нас становіцца страшным тормазам... Калі нас параўноўваць з Украінай ці Расіяй, дык у нас проста нейкая Нарвегія.

**УЛАДЗІМІР МАЦКЕВІЧ, ФІЛОСАФ, БЫЛЫ ПРАДПРЫМАЛЬНІК:**

### "З "АДКАТАМ" МОЖНА ЗМАГАЦЦА".

– Я не сутыкаўся з вымагальніцтвам непасрэдна, а з "адкатамі" так. Бо шмат якія галіны бізнесу ўвогуле без іх не абыходзяцца . І там "адкат" нават закладаецца ва ўнутраную бухгалтэрыю.У бізнесе непасрэдныя дачыненні людзей маюць велізарнае значэнне. Не трэба шкадаваць грошы на сустрэчы, на ўстанаўленне сяброўскіх адносінаў. Гэта такая значная частка бізнесу, без якой справа не абыходзіцца. І таму ўсё можа мець цывілізаваныя формы, а можа хавацца ў ценявыя, непразрыстыя, і нават у чорны бізнес. Таму не трэба выдаваць негатыўныя з'явы за неабходнасць. Яны таксама могуць быць пераведзеныя ў цывілізаваныя формы.

**АФІЦЫЙНА**

Найбольш схільныя карупцыі ў Беларусі сферы прамысловасці, эканомікі і лясной гаспадаркі. Пра гэта паведаміў сёння журналістам перад пачаткам рэспубліканскага семінара па пытаннях процідзеяння карупцыі першы намеснік старшыні Следчага камітэта Беларусі Андрэй Швед, перадае т БЕЛТА.

У гэтых сферах ўзровень карупцыйнай злачыннасці, па словах Андрэя Шведа, найбольш высокі і менавіта на іх Следчы камітэт зверне асаблівую ўвагу. «Праблемы існуюць, некаторыя кіраўнікі не да канца разумеюць важнасць барацьбы з карупцыяй, іх метады працы недапушчальныя. Аднак гэтае пытанне вырашаецца, у гэтым кірунку мы працуем. У праваахоўных органаў ёсць пэўныя прававыя механізмы, якія дазваляюць гэта рабіць», - сказаў ён.

**МАРЫЯ МІКУЛЬЧЫК СТУДЭНТКА:**

### "УСЁ Ў НАС НА СЁННЯ ВАРТАЕ ЖАЛЮ".

– Якая ў лукашэнкаўскай паўсавецкай Беларусі можа быць карупцыя? Якая карупцыя ў калгасе, калі ўсё вакол дзяржаўнае, а тое, што недзяржаўнае, будзе заўтра дзяржаўным? Што тут дзяліць? За што каго падкупляць? Каму каго забіваць? Усе карупцыянеры, здаецца, даўно ўжо збеглі. А засталіся дробныя хабарнікі. Калі паборы ў школах ці вымагальніцтва грошай у прадпрымальнікаў на ўсялякія дажынкі і лядовыя палацы гэта карупцыя, то тады сапраўды, жахлівы "спрут" абкруціў усю нашу "зялёную рэспубліку". Але, на жаль, усё ў нас на сёння вартае жалю. Ад хакея да палітыкаў, ад кіно і да карупцыі. Толькі музыка і літаратура нас ратуе.

**АПЫТАННЕ ПРАВЁЎ ЗМІЦЕР ЗЯЗЮЛЯ**

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 1*

# ШТО ЯДНАЕ ДЫКТАТАРАЎ І ДЫНАЗАЎРАЎ

## КРЫЗІС ЖАНРУ

Аднак гэтая пагроза не новая. І пакуль што Еўрасаюз не надта спалохаўся, што Лукашэнка заплюшчыць вочы.

Разумеючы гэта, кіраўнік Беларусі змяніў тон і прапанаваў шукаць агульную мову: *"Так давайте разговаривать, мы же люди. Мы этим и отличаемся от зверей, что мы способны договариваться"*. На думку Лукашэнкі, выбару ў Захаду няма, бо рэвалюцыі ў нашай краіне не адбудзецца.

– Не дождетесь. Беларусь - не Ближний Восток. Здесь уже некоторые попробовали через социальные сети взорвать ситуацию. Ничего не получилось и никогда не будет.

Аднак і заявы пра тое, што ліміт рэвалюцый у Беларусі вычарпаны, гучалі ўжо шматкроць. Таму выглядае, што Лукашэнка не ў стане сказаць Захаду праз журналістаў нічога новага. Крызіс жанру. Еўропа не можа змяніць сітуацыю ў Беларусі, а сам Лукашэнка не хоча мяняцца.

Аднак у свеце няма нічога вечнага. І час працуе не на цяперашняга кіраўніка Беларусі. Пачатак XXI стагоддзя сведчыць, што дыктатары паступова выміраюць нібы дыназаўры. Менавіта таму, што нея хочаць мяняцца.

**ВАЛЯНЦІН СЫЧ**

# БЕЛАРУСКІЯ ЕЎРААБЛІГАЦЫІ НЕАКТУАЛЬНЫЯ

**Ад панядзелка слынныя беларускія міністры знаходзяцца ў Паўднёва-Усходняй Азіі, дзе абмяркоўваюць магчымасць пазыкі там грошай у выглядзе еўраабліґацый. Абвяшчаецца, што канкрэтных сум яны адтуль не прывязуць, а вось вывучыць попыт азіяцкіх бізнесменаў, хутчэй за ўсё, здолеюць.**

Для чарговага размяшчэння беларускіх каштоўных папер цяпер разглядаюцца Ганконг ці Сінгапур. Асноўныя прычыны дзве.

Першая: ідэалагічна больш блізкі рэгіён, ніякіх заможных буржуа — толькі прагматычныя людзі, якія "робяць" грошы. Еўрапейская палітыка для Паўднёва-Усходняй Азіі — гэта зусім няважная тэма для абмеркаванняў. А стасункі невялікай Беларусі з цывілізаваным светам там зусім нікога не хвалююць.

Другая, азіяцкія рынкі – гэта плацежаздольны попыт. Як Кітай (асабліва Ганконг), так і Сінгапур з'яўляюцца агламератамі, дзе сканцэнтраваны агромністыя капіталы. Акрамя таго, па прагнозах Цэнтра даследаванняў эканомікі і бізнесу (Вялікабрытанія), Лондан, які лічыцца фінансавай сталіцай свету, ужо сёлета страціць лідарскі статус і перадасць яго Нью-Ёрку. Да 2015 года найбуйнейшымі фінансавымі цэнтрамі будуць Лондан, Ганконг і Сінгапур. Такім чынам, крызіс у еўразоне ўжо ў найбліжэйшы час стане праблемай для еўрапейскіх рынкаў, якія страцяць сваю значнасць у свеце.

Сапраўды, цяпер на гэтых рынках склалася надзвычай складаная сітуацыя. Як адзначылі ў гутарках з «Тут і цяпер» некаторыя эксперты, добра знаёмыя з фондавым рынкам, вывад беларускіх еўраабліґацый, напрыклад, на Люксембургскую фондавую біржу, дзе былі размешчаны першыя два выпускі абліґацый, можа скончыцца няўдачай.

З іншага боку, еўрапейскім рынкам беларускія каштоўныя паперы ўжо знаёмыя, і працэнтная стаўка, якую атрымаюць іх пакупнікі, можа быць ніжэйшай за тыя, пры якіх размяшчаліся папярэднія выпускі. У прыватнасці, у 2010 годзе Беларусь размясціла абліґацыі на 600 млн долараў пад 8,75% гадавых, 400 млн долараў пад 8,25% гадавых, а ў 2011 годзе — 800 млн долараў пад 8,95% гадавых. Калі дзяржава захоча вывесці беларускія бонды на еўрапейскі рынак, то, хутчэй за ўсё, можна будзе разлічваць на стаўку 8,3—8,7% гадавых.



*Зацыраваць нашу фінансавую коўдру еўрабондамі не атрымаецца*

Выхад на ўсходнія фондавыя пляцоўкі будзе лічыцца дэбютам, а значыць, стаўкі пры гэтым будуць вышэйшыя. Верагодна, што ў выпадку прыняцця дзяржавай рашэння аб размяшчэнні абліґацый менавіта ў Ганконгу ці Сінгапуры, яна можа разлічваць на стаўкі 9—9,5%. А па цяперашнім часе такое дарагое размяшчэнне наўрад ці апраўданае.

Справа ў тым, што ў кастрычніку дзяржава вынайшла магчымасць займаць на ўнутраным рынку пад меншы працэнт. Ужо некалькі банкаў і камерцыйных установаў выкупілі дзяржаўныя абліґацыі больш як на 200 млн долараў пад 7—7,5% гадавых. Для кампаній такая стаўка вельмі прымальная, бо стаўкі па банкаўскіх дэпазітах у валюце ніжэйшыя — каля 5,5-6,5%. І для дзяржавы кошт такіх пазыкаў значна ніжэйшы за знешнія.

У найбліжэйшы час Міністэрства фінансаў плануе выпусціць яшчэ і абліґацыі для насельніцтва. Дэталі гэтага выпуску невядомыя, але можна дапусціць, што дзяржава прапануе па гэтых каштоўных паперах стаўкі, якія таксама будуць большымі за працэнты па валютных дэпазітах. Адпаведна, і пакупнікі на такія паперы знойдуцца.

Такім чынам, у найбліжэйшы час вялікай патрэбы ў размяшчэнні еўраабліґацый у Беларусі няма. Тым больш у Азіі, дзе бізнес будуюць на выгадзе, а не на прыязнасці.

**МІХАЛ ВЯЗЫНСКІ**

### ДА ВЕДАМА

**Еўраабліґацыя (таксама ўжываецца еўрабонд) — каштоўная папера, якую выпускае ўрад ці міжнародная арганізацыя і размяшчае на замежных рынках для замежных пакупнікоў.**

# ЛАТВІЯ: ПЕНСІЙНЫЯ РАДАСЦІ

**“Тут і цяпер” распачынае новы праект – серыю артыкулаў, распавядаючых пра жыццё-быццё людзей на пенсіі ў суседніх краінах.**

Першы артыкул у гэтай серыі – пра радасці і няўзгоды пенсійнага жыцця ў Латвіі. Мы стараліся расказаць пра іх максімальна нейтральна. А высновы няхай робяць самі чытачы.



*Не ўсё так самотна са старымі ў Латвіі, але…*

## АБАРВАНЫ ПАЛЁТ

Найперш трэба адзначыць, што ў 2008 і 2009 гадах у выніку глабальнага фінансавага крызісу Латвія вельмі моцна пацярпела: спыніўся прыток вонкавага капіталу, і ў краіне пачалася рэцэсія. Унутраны валавы прадукт (ВУП) абваліўся на чвэрць!

У 2009 годзе Латвія перажыла самае рэзкае падзенне ўзроўню эканомікі сярод краін ЕС – ажно на 18%. І гэта пры тым, што ад 2004 і да першай паловы 2008 года латышская эканоміка расла найбольшымі тэмпамі ў Еўрасаюзе, і ў 2006 годзе прырост ВУП складаў 12,2%.

Натуральна, эканамічны крызіс адбіўся на дабрабыце жыхароў краіны. Моладзь пачала актыўна іміграваць у Заходнюю Еўропу (адкрытыя межы гэтаму спрыяюць). Сталыя людзі навучыліся зацягваць паясы.

Масавая міграцыя людзей эканамічна актыўнага ўзросту адмоўна адбіваецца на магчымасці бюджэту дапамагаць старым. Інфармацыйнае агенцтва Leta паведамляе, што на канец 2011 года пенсію па ўзросце атрымлівалі 481 745 чалавек. Яе сярэдні памер у гэтым жа годзе складаў 184,72 лата*. У снежні мінулага года большасць пенсіянераў – 186 000 чалавек – атрымлівалі пенсію ад 150 да 180 латаў; пенсію менш за 100 латаў атрымлівалі 28 400 чалавек, а больш за 300 латаў – 24 100 пенсіянераў. Пры гэтым, паводле даных арганізацыі Eurostat, прыкладна 35% пенсіянераў Латвіі жывуць за мяжой беднасці.

Найбольшую страту кішэням пенсіянераў нясуць камунальныя плацяжы. У зімовы перыяд яны могуць нават перавышаць мінімальную пенсію па ўзросце. Многія пенсіянеры вымушаны шукаць падпрацоўку ці здаваць частку свайго жытла ў арэнду (дарэчы, гэтыя спосабы пошуку дадатковых сродкаў на жыццё распаўсюджаны і ў Беларусі).

Вельмі істотна, што з 2014 па 2020 год пенсіённы ўзрост у Латвіі паступова вырасце з 62 да 65 гадоў для жанчын і мужчын адпаведна.

## ЧАС, КАЛІ ЦІКАВІЦЬ НЕ ПОБЫТ

Спадарыня Эрыка са сваёй сяброўкай бавілі час у восеньскім парку. Распавядаць пра жыццё пенсіянера ў Латвіі яны не надта жадалі. “Чым мы можам быць вам ужо цікавымі?” — здзіўлялася Эрыка, тым не менш на некалькі пытанняў для “Тут і цяпер” пагадзілася адказаць.

> «У мяне ёсць суседзі беларусы, – кажа жанчына. – Калі б тут было так ужо невыносна, то яны з’ехалі б у Беларусь».

— Ведаеце, цягам апошніх год нічога для нас, пенсіянераў, не змянілася. Да крызісу двойчы на год пенсіі індэксавалі, а цяпер няма грошай у бюджэце і такога не робяць. Праўда, абяцаюць, што з 2014 года зноў будуць індэксаваць пенсіі. Гэта добра, бо ёсць жа інфляцыя, грошы абясцэньваюцца, — распавядае пра будзённыя клопаты латышскіх пенсіянераў спадарыня Эрыка. — Лекі ў нас дарагія, а ў параўнанні з расійскімі коштамі дык і ўвогуле вар’яцкія. Праўда, некаторыя лекі можна набываць па рэцэпце са зніжкай. Напрыклад, такую палёгку маюць сардэчнікі, хворыя на цукровы дыябет. Яшчэ ў нас бясплатна можна зрабіць аперацыю. Але гэта калі па чарзе. Калі ж тэрмінова, то платна. Папулярная ў пажылых людзей такая аперацыя: паставіць эндапратэз у суставу сцягна. Вы ж ведаеце, што гэта сапраўдная праблема, пажылыя людзі часта маюць складаныя пераломы ў гэтым месцы. Дык паставіць такі эндапратэз за грошы каштуе прыблізна 1 000 лат. Гэта многім не па кішэні.

Размаўляем пра магчымасці для адпачынку, буйных пакупак і пра тое, што ўвогуле цікава сталаму чалавеку. Згадваю пра лецішчы, на якіх многія беларускія пенсіянеры працуюць ад вясны да позняй восені.

— Лецішчы і тут у многіх ёсць, але не шыкоўныя, канечне. Гэта ў маладых людзей такія раскошныя дамы бываюць, у нас простыя, сад вакол дома, кветкі... Наконт пакупак, дык я перад пенсіяй шмат што набыла, тым і карыстаюся акуратна. Навошта мне цяпер новая мэбля? – усміхаецца спадарыня. — Цяпер побытавыя рэчы ўвогуле не надта цікавяць.

— А што цікавіць?

— З’есці нешта добрае, з’ездзіць на ўзбярэжжа прагуляцца...

У Латвіі ёсць мора, хай сабе і халоднае Балтыйскае, але мясцовым жыхарам яно не менш мілае, чым беларусам свае рэчкі-азёры. Спадарыня Эрыка ездзіць на мора ці на пачатку лета, ці напрыканцы, калі людзей там няшмат. Гаворыць, што прахалода – гэта нават добра, бо спёку пераносіць цяжэй, а так можна доўга шпацыраваць, дыхаць паветрам. У далёкія краіны мая суразмоўца цяпер не ездзіць – не дазваляюць сродкі, ды і няма асаблівага жадання.

— Цяпер усе хочуць ехаць вучыцца за мяжу, кажуць, што там танней, больш цікава. Межы зноў-такі адкрытыя, — і прыгадвае пра свае візіты ў замежжа. — Я памятаю, як у часы сваёй маладосці ездзіла ў Берлін, дык нас так старанна правяралі! Па адным у вагон цягніка запускалі.

Напрыканцы размовы спадарыня Эрыка па-філасофску заўважае, што ў кожнай дзяржаве ёсць “і добрае, і кепскае”.

— У мяне ёсць суседзі беларусы, – кажа жанчына. – Калі б тут было так ужо невыносна, то яны з’ехалі б у Беларусь.

Зімой за сваю кватэру ў Рызе плошчай 49 квадратных метраў спадарыня Эрыка плаціць 150-160 лат.

## НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ АСАБЛІВАСЦІ

Ёсць у латышскіх пенсіянераў яшчэ дзве праблемы, нехарактэрныя для беларускай рэчаіснасці. Так, працоўны стаж, зароблены да 1991 года, не бярэцца пад увагу, калі разлічваецца пенсія. Адпаведна, гэта ўплывае на памер пенсіі. Людзі, якія не маюць латышскага грамадзянства, але маюць расійскае (ці могуць яго атрымаць), тут лічацца шчаслівчыкамі, бо памер расійскай пенсіі больш за латышскую.

Ёсць і іншыя праблемы.

У студзені 1992 года ўступілі ў сілу законы аб дэнацыяналізацыі і вяртанні домаўладанняў, якія былі адабраны ў савецкі час, законным уласнікам. Па звестках статыстыкі, да 1 студзеня 1997 года было разгледжана 6 492 заявы, і ў выніку 67% прэтэндэнтаў атрымалі назад уласнасць, што ім належала, — 3 942 дамы (у тым ліку 3 610 жылых). Але спрэчныя дамы застаюцца і сёння. Людзі, якія там жывуць з савецкіх часоў, часта не маюць іншага жытла ці магчымасці яго набыць. Уласнікі, адпаведна, зацікаўлены ў тым, каб вярнуць сабе дом ды выселіць жыльцоў. Для таго, каб атрымаць дзяржаўную кампенсацыю за жыллё, трэба адпавядаць шэрагу крытэрыяў. Напрыклад, такі чалавек мусіць мець не больш за 200 латаў даходу ў месяц (для адзінокіх — 250 латаў), а таксама мець статус палітычна рэпрэсаванага або асаблівыя заслугі перад Латвіяй ці Рыгай. Безумоўна, гэта ў першую чаргу датычыцца пажылых людзей.

Вікторыя Мурсіна ўжо на пенсіі. Яна з'яўляецца сустаршынёй таварыства дэнацыяналізаваных дамоў. Сама змагаецца за ўласную кватэру ў Рызе. Гаворыць, што ў сталіцы Латвіі хапае пажылых людзей, якія канфліктуюць з уладальнікам дома, але не маюць магчымасці набыць сабе новае жытло.

## ГАРАНТАВАНАЯ РАСКОША

Канечне, у маладосці ўласны пенсіённы ўзрост выглядае далёкай і цьмянай перспектывай. Тым не менш пра ацэнку перспетыў "залатога веку" мы спыталі ў Ірыны Кузняцовай – паспяховай маладой дзяўчыны, якая працуе ў міжнародным фондзе, мае добрую адукацыю і быццам бы мусіць не хвалявацца за ўласную будучыню:

— У нас пенсіянеры атрымліваюць мала. Калі нават два чалавекі ў сям'і атрымліваюць пенсіі, то ў суме для пражывання будзе нямнога. А размовы пра тое, каб падняць пенсіі да 500-700 еўра – гэта чысты папулізм. У нас грамадства не давярае дзяржаве. Адпаведна, ніхто не хоча плаціць падаткі, імкнуцца на працы заключаць "аўтарскія дамовы", паводле якіх падатак меншы. І калі людзі не хочуць плаціць падаткі, то з чаго браць пенсіі? Вось такое замкнёнае кола.

Маё пакаленне рыхтуецца да таго, што ўсе мы будзем працаваць да глыбокай старасці і пенсій у класічным разуменні ўвогуле не пабачым. Цяпер наша будучыня вельмі няпэўная. А мець гарантаваную пенсію ў цяперашнім яе выглядзе, відаць, будзе нейкай раскошай.

**ВОЛЬГА ХВОІН**

**1 лат = 15 798 беларускіх рублёў, паводле Нацбанка РБ.*




# "СЛАВЯНСКІ МАРШ" ЯК СІМПТОМ

**Зацягнутую паўзу ў апазіцыйнай мітынговай актыўнасці ў Магілёве, якая доўжыцца ледзь ці не ад снежня 2010 года, перарвалі магілёўскія "маладыя славяне", якія з дазволу ўлады правялі ў нядзелю марш і мітынг.**

## "ІМІТАЦЫЯ І ПАДМАН НАРОДАЎ"

Наступным разам яны паабяцалі выступіць у цэнтры горада, а не ў "рэзервацыі", якой апазіцыя любых адценняў лічыць стадыён пры заводзе імя Куйбышава — месца, вызначанае гарадскім выканкамам для масавых пратэстных акцый. Таксама ўдзельнікі маршу, якіх было прыблізна 50 чалавек (пераважна моцныя юнакі з маскамі на тварах, апранутыя ў чорныя курткі; зладжанымі воклічамі "Рускія, наперад!" і выкідамі дагары правай рукі яны нагадвалі ваенны атрад), паабяцалі, што на наступнай акцыі іх будзе як мінімум у 10 разоў больш.

## КАЛІ ІХ СТАНЕ БОЛЬШ…

Асноўны рэй падчас мітынгу і кароткага, на працягу не больш як 500 метраў, маршу вёў лідар магілёўскіх славян Дзмітрый Дзенісенка, які сачыў за дысцыплінай і вёў перамовы з афіцэрамі міліцыі, што суправаджалі калону і акружалі мітынг. За тым, што адбывалася, назіралі і шараговыя міліцыянты, некалькі з іх былі нават у амапаўскіх берэтах.

Выступоўцы гаварылі ўсхвалявана, горача і надзвычай шырока ў тэматычным сэнсе. Былі названы ворагі Расіі і славянскага адзінства, як унутраныя, так і знешнія. Да ўнутраных мітынгоўцы аднеслі цяперашнія ўлады названых вышэй трох краін, а да знешніх — глабалізацыю і "азіяцкае засілле" ў славянскіх краінах, якое пачалося даўно і доўжыцца да сённяшняга часу.

## "ОРАЛО КОМАНДИРСКОЕ»

Нешматлікія магілёўцы, якія сталі выпадковымі сведкамі шэсця па пустой у гэты час вуліцы Чалюскінцаў і мітынгу, схаванага ад мінакоў у дальнім куце стадыёну, з цікавасцю і здзіўленнем паглядалі на купку добра арганізаваных людзей з маскамі на тварах. Але падыходзіць блізка яны не рызыкавалі, інтуітыўна адчуваючы сваю лішнасць у тым, што адбывалася. Толькі адна бабулька, якая, відавочна, шпацыравала з ранішняй службы ў царкве, выбрала ціхую хвіліну, каб папрасіць вядоўцу мітынгу "паўтарыць усё спачатку, бо яна спазнілася і не ведае, у чым тут справа". Рассмяяліся на гэта толькі прысутныя тут журналісты, дарэчы, выключна незалежных выданняў. Лідар жа магілёўскіх славян, пакуль сп. Рыжоў перахапіў у яго узмацняльнік гуку (па іхнаму — "Орало командирское". — Заўв. аўт.), сапраўды пачаў нешта тлумачыць бабулі на вуха. Засталося невядомым, ці пераканалі яго довады бабулю, а вось яе ўнука (магчыма, ён ужо стаяў у тым мітынговым шэрагу) такі падзел свету на славян і "азіятаў", на "сваіх" і "ворагаў" пераканаць, трэба прызнаць, цалкам здольны: моладзь, як вядома, сапраўды больш ахвочая да кароткіх і простых тлумачэнняў зместу і сэнсу жыцця, чым да складанага шляху да ісціны. У асяродку магілёўскіх славян такой моладзі, можа, многае падабацца: адзіны ранжыр, адзіны камандзір, адзіная (практычна) уніформа, зладжаныя слоганы, выкіды рук пад баявыя (практычна) воклічы, ідэі. І маштабнасць, ледзь ці не сусветная маштабнасць…

**ВІКТАР ВОЙТ**

# КОЛЬКІ КАШТУЮЦЬ НАШЫ ЗОРКІ Ў НАВАГОДНЮЮ НОЧ

“Тут і Цяпер” паспрабавала замовіць на навагоднюю ноч зорку беларускай эстрады. Мы наўпрост набралі нумары адказных за арганізацыю канцэртаў, якія пазначаны на афіцыйных сайтах некаторых артыстаў. І вось што атрымалася.



*І на святах можна рабіць прыстойныя грошы*

## ГРУПА «ТЯНИ-ТОЛКАЙ» У НАВАГОДНЮЮ НОЧ МОЖА ВЫСТУПІЦЬ У РОЗНЫХ МЕСЦАХ

Заказы на выступленне артыстаў у навагоднюю ноч яшчэ прымаюцца. Нельга сказаць, што расцэнкі надта высокія. Напрыклад, мы спрабавалі замовіць артыстаў альбо на навагоднюю ноч, альбо на карпаратыўчык 2 студзеня, які адбудзецца ў адным са сталічных рэстаранаў.

*— У ноч з 31 на 1 будзе адна цана, а на 2 студзеня — іншая,* — адказалі нам. *— Калі працаваць у Мінску ў рэстаране, і выступленне будзе доўжыцца прыкладна паўтары гадзіны, то гэта будзе каштаваць 3000 долараў. Калі 2 студзеня — 2000 долараў тыя ж паўтары гадзіны.*

Дарэчы, на навагоднюю ноч у групы **«Тяни-Толкай»** ужо ёсць прапановы выступіць.

*— У нас звычайна некалькі выступленняў за навагоднюю ноч бывае,* — удакладняюць менеджары групы.

## НАТАЛЛЯ ПАДОЛЬСКАЯ ПРАЦУЕ Ў СОЧЫ

Канцэртны адміністратар с**пявачкі Наталлі Падольскай** адразу сказаў, што прапановы выступленняў на Новы год ужо не разглядаюцца.

*— У навагоднюю ноч Наталля будзе працаваць у Сочы, а 2 студзеня разам з мужам Уладзімірам Прасняковым яна ляціць на адпачынак,* — паведаміў канцэртны адміністратар Алег Барцыа.

Дарэчы, у Сочы накіроўваецца і вядомы кампазітар **Эдуард Ханок**.

*— Хутчэй за ўсё, 2 студзеня паеду ў Сочы — там кожны год у гэты час праходзіць дзіцячы фестываль,* — распавядае кампазітар. *— Магчыма, паеду туды і раней, на Новы год (зараз якраз пытанне вырашаецца). Звычайна я на Новы год не працую, калі толькі ў Сочы, у санаторы "Белая Русь". Ды ў мяне і заказы такія рэдка бываюць: я ж не эстрадная зорка, а кампазітар і аўтар папулярных песень.*

## АЛЯКСАНДР КУЛІНКОВІЧ: “КАМП’ЮТАРШЧЫКІ ЗАМАЎЛЯЮЦЬ РОКЕРАЎ”

Лідар гурта **“Нейра-Дзюбель”** кажа, што запрашэнняў выступіць у навагоднюю ночь пакуль што не атрымліваў.

*— Калі запросяць, то, натуральна, абавязкова будзем працаваць,* — гаворыць Аляксандр. *— Хаця фірмы, якія традыцыйна запрашалі нас, “Крамбамбулю” і “Ляпісаў”, наўрад ці запросяць нас усёй кампаніяй. Чаму? Думаю, уся справа ў чорных спісах — не выключана, што карпаратываў яны таксама тычацца.*

*Увогуле, мне падаецца, што беларускіх зорак не вельмі часта запрашаюць на навагоднія вечарынкі. Ва ўсякім выпадку, у нас не ідзе гаворка пра нейкі “навагодні чос”, як у той жа Расіі. У нас усё больш сціпла: не той узровень і выканаўцаў, і спажывання. І калі нейкія буйныя (ці заможныя) фірмы могуць дазволіць сабе зладзіць дарагі карпаратыў, то дырэктары гэтых фірм, як правіла, не “спажыўцы” рок-музыкі. У лепшым выпадку, запросяць Ціхановіча з Паплаўскай ці Аляксандра Саладуху, або расіян — на ўзроўні “выпіць-паплакаць”. А вось камп’ютарныя фірмы рэгулярна запрашалі менавіта рок-музыкаў. Ведаю, што адна сур'ёзная фірма нават праводзіла апытанні сярод сваіх супрацоўнікаў на прадмет таго, каго з арты-*

**ПАРАЛЕЛІ**

## КОЛЬКІ КАШТУЮЦЬ РАСІЙСКІЯ ЗОРКІ?

**Цэннік на зорак расійскай эстрады даволі лёгка знайсці ў Інтэрнэце.**

Вось толькі некаторыя кошты.

**Хрысціна Арбакайтэ** — снежань, будныя дні — 30 000 еўра, выхадныя дні — 40 000 еўра, на выездзе — 100 000 еўра, навагодняя ноч у Маскве 30 хвілін — 50 000 еўра.

**Лайма Вайкуле** — снежань, у буйных гарадах ад 40 000 еўра.

**Юлія Савічава** — снежань, у Маскве 15 000 еўра, выезд 35 000—40 000, навагодняя ноч — 20 000—25 000 еўра.

Спявачкі **Вера Брэжнева**, **Жанна Фрыске** і **Нюша** за свае канцэрты просяць не больш як 50 тысяч еўра. Праўда, у саму навагоднюю ноч Вера Брэжнева патрабуе 150 тысяч еўра.

Украінская зорка **Ані Лорак** менш пераборлівая: за гадзіну свайго выступу ў навагоднюю ноч Спявачка патрабуе “ўсяго” 60 тысяч еўра.

*стаў яны хацелі б бачыць, і, зыходзячы з гэтых вынікаў, запрашалі артыстаў. Як правіла, гэта былі "J-Mors", "Крамбамбуля", "Нейра-Дзюбель" і "Ляпіс Трубяцкой". Мы некалькі разоў выступалі менавіта такім складам.*

## J-MORS ПАТРАБУЕЦЦА ЧАС НА РОЗДУМ

Група **J-Mors** за выступленне ў навагоднюю ноч у Мінску просіць 5000 еўра. Ва ўсякім выпадку, менавіта такую суму агучылі нам па тэлефоне.

За гэтыя грошы група выйдзе на сцэну два разы.

— Спяваць будзем не толькі свой рэпертуар, але і навагоднія хіты, — адказалі нам на некаторыя ўдакладняючыя пытанні. — Мы падыдзем да гэтага пытання творча. Звычайна ніхто не крыўдзіцца. Але нават калі вы вырашыце нас запрасіць, мы возьмем некаторы час на роздум і канчаткова вызначымся, будзем працаваць ці не.

## АЛЯКСАНДР САЛАДУХА КАНКРЭТНЫХ ЛІЧБАЎ НЕ АГУЧВАЕ

Вядомы артыст якраз днямі атрымаў запрашэнне на выступленне перад самым Новым годам.

*— Буду выступаць гадзіну: 31 снежня з 22.30 да 23.30,* — распавядае артыст. *— Што тычыцца расцэнак, то ў межах Беларусі, я лічу, нармальна.*

**Аляксандр Саладуха** кажа, што за апошніх восем гадоў нячаста працаваў у навагоднюю ноч.

*— Мы якраз учора з жонкай успаміналі: за тыя восем гадоў, што мы разам, на Новы год я працаваў два-тры разы,* — гаворыць Саша. *— Што тычыцца гэтага года, то не выключана, што на навагоднюю ноч будуць яшчэ заказы. Таму пакуль што дакладна не ведаю, дзе буду сустракаць Новы год.*



Новы год на носе

Артыст прызнаецца, што не адразу пагадзіўся выступіць 31 снежня — спачатку параіўся з жонкай.

*— І мы разам вырашылі, што трэба працаваць,* — гаворыць ён. *— Дарэчы, у апошні час у мяне няма праблем з працай. Напрыклад, якраз у гэтыя дні ў мяне ўпершыню за 25 гадоў працы на сцэне "трайнік" — тры сольныя канцэрты запар у адным горадзе — Смаргоні. І ўсе з аншлагам! Раней у мяне былі падвойныя канцэрты — два дні запар, а такое першы раз у жыцці. Па цяперашніх часах гэта вельмі крута, ды што тут распавядаць — у нас не ўсе беларускія зоркі поўныя залы збіраюць.*

Саладуха кажа, што нядрэнна зарабляе на такіх канцэртах.

*— У мяне калектыў 14 чалавек; з беларускіх зорак ужо даўно ніхто так не выязджае,* — кажа ён. *— Гук, святло, экран, праектар, тэхсклад толькі 5 чалавек!*

Напрыканцы снежня артыст разам з сям'ёй з'язджае на Мальдзівы (пуцёўкі ён набыў яшчэ летам).

**МАРЫНА МІТ**

**АЛЬТЭРНАТЫЎНЫ ВАРЫЯНТ**

## БАЛЬ У МІРСКІМ ЗАМКУ

У Мірскім замку ўпершыню пройдуць стылізаваныя калядныя балі. Праўда, адбудуцца яны ўжо пасля навагодняй ночы. Кошты не завоблачныя: напрыклад, уваходны квіток на Венскі баль каштуе 500 тысяч рублёў. Гасцям абяцаюць жывую інструментальную музыку, неапалітанскія напевы, выступ оперных зорак і іншыя забавы. Свецкі рэтрасалон 20—30-х гадоў XX стагоддзя каштуе крыху больш — 600 тысяч.

Між іншым вядома, што некаторыя людзі яшчэ некалькі тыдняў назад бранiравалі нумары ў гатэлі, каб сустрэць Раство ў Мірскім замку. Нумары, дарэчы, каштавалі таксама не надта дорага: 720 000 беларускіх рублёў — нумары "камфорт", 950 000 — люкс аднаўзроўневы, 1 275 000 — люкс двухузроўневы.

## "КАБАРЭ" Ў КУПАЛАЎСКІМ ТЭАТРЫ

Як варыянт добрага перадНавагодняга вечару — апошняя прэм'ера ў Купалаўскім тэатры "Местачковае кабарэ". Спектакль настолькі ўзнімае настрой, што пасля яго хочацца працягу банкета. Праўда, у снежні, паводле афішы Купалаўскага, гэты спектакль будзе ісці толькі два дні. І цалкам магчыма, што будуць праблемы з квіткамі: як нам стала вядома, пасля прэм'еры некаторыя банкіры збіраліся выкупіць вялікую колькасць гэтых спектакляў пад Новы год...

**У суботу 24 лістапада беларуская грамада ў Вялікабрытаніі адзначыла 92-я ўгодкі Слуцкага збройнага чыну — Дзень герояў. На святкаванні аднаго з найстарэйшых святаў беларускай эміграцыі ў Беларускім доме ў цэнтральнай частцы Лондана пабываў карэспандэнт "Тут і цяпер".**

# ДЗЕНЬ ГЕРОЯЎ У ЛОНДАНЕ

## БЕЛАРУСКІ ДОМ

Лондан паступова апаноўвае традыцыйнае ангельскае надвор'е. Гэта калі дажджыць так, што не бачна ані канца, ані краю На даволі зацішнай, асабліва ў выходны дзень, вуліцы Пэн-Роад вось ужо 64 гады месціцца легендарны Беларускі дом.

Пасля заканчэння Другой сусветнай вайны Вялікабрытанія стала адной з тых заходніх дзяржаваў, што адчыніла межы для беларусаў, якія не бачылі будучыні ў краіне Саветаў. Вынікам у канцы 1940-х на Брытанскіх выспах апынулася некалькі тысяч нашых суайчыннікаў — у асноўным жаўнераў 2-га польскага корпуса брытанскіх узброеных сіл (армія Андэрса) з сем'ямі. Пазней, праўда, большасць з іх імігравала ў іншыя краіны…

У 1946-м паўстала Згуртаванне беларусаў у Вялікабрытаніі, што існуе дагэтуль. Трохі болей за два гады спатрэбілася тагачасным беларусам, каб "усім светам", фунт да фунта, сабраць грошы на набыццё нерухомасці. Сёння, калі колькасць беларусаў-мільянераў па ўсім свеце вылічваецца, бадай, тысячамі, уявіць падобнага подзвігу на карысць грамадскай справы амаль немагчыма.

"Беларускі дом у Лондане стаў рэальным увасабленнем магчымасцяў невялікай беларускай дыяспары, сведчаннем яе ахвярнасці, гаспадарлівасці і, урэшце, трываласці", — адзначае аўтарка манументальнага даследавання "Беларусы ў Вялікабрытаніі" гісторык Наталля Гардзіенка. Паводле яе, гэты будынак стаў "першай афіцыйнай уласнасцю беларусаў у Заходнім свеце".

Як і паўстагоддзя назад, сёння тут базуецца Згуртаванне беларусаў Вялікабрытаніі, якое ад самага пачатку сярод іншага адказнае і за арганізацыю штогадовых ўрачыстасцяў з нагоды двух найбуйнейшых свецкіх святаў нашай эміграцыі — Дня Волі (25 сакавіка) і Дня Герояў (27 лістапада).

Заканчэнне на стар. 8

# ДЗЕНЬ ГЕРОЯЎ У ЛОНДАНЕ

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 7*

## “ПАРАЗА, ЯКАЯ НАТХНІЛА”

27 лістапада 1920-га года на Случчыне пачалося антысавецкае паўстанне — спроба ўзброенай абароны незалежнасці Беларусі, якое ўвайшло ў гісторыю пад назвай Слуцкі збройны чын. Цягам месяца беларускія вайсковыя аддзелы, сфармаваныя ў асноўным з сялянаў, стрымлівалі наступ бальшавіцкіх войскаў, маючы на мэце прызнанне тэрытарыяльнай цэласнасці і незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі.

Рэктар Беларускай каталіцкай (уніяцкай) місіі ў Лондане і старэйшына беларускай суполкі на Брытанскіх выспах айцец Аляксандр Надсан быў якраз сярод тых, хто займаўся набыццём “першай афіцыйнай уласнасцю беларусаў у Заходнім свеце”. Памятае ён і пра самыя першыя святкаванні тут Дня Герояў.

“У гэтым самым будынку, у той самай залі, што і цяпер, з пачатку 1940-х адбываліся ўсе асноўныя беларускія мерапрыемствы. Ушанаванне герояў-случчакоў займала сярод іх адной з цэнтральных месцаў”, — распавядае мне айцец Аляксандр. Цікава, што сам ён даведаўся пра Слуцкае паўстанне ад свайго бацькі. Афіцэр яшчэ царскага войска, той браў чынны ўдзел у гераічных падзеях восені 1920-га. “Нават ездзіў на перамовы з палякамі”, — дадае Надсан.



*Беларусь ёсць і ў Лондане*

“Госпадзе Ісусе Хрысце, Божа наш, — пачынае ўрачыстасць малітвай за спачын герояў святар Беларускай каталіцкай місіі ў Англіі айцец Сяргей Стасевіч. — Ты сказаў: “Няма большае любові, як палажыць душу сваю за сяброў сваіх”, і Сам даў прыклад гэтае ўсеахвярнае любові. Просім Цябе, глянь ласкавым вокам Тваім на тую вялікую любоў загінулых герояў, што скрозь па ўсёй Беларусі і далёка за еймымі межамі ў вядомых і невядомых, памятных і забытых магілах, супачылых бацькоў, братоў, родных і блізкіх, тых, што палі ў баёх, загінулі ў турма ці згібелі на ссылцы ў карных лагерах…”

Як вядома, Слуцкае паўстанне скончылася паразай беларускіх незалежніцкіх сіл. Бальшавікі замардавалі амаль ягоных лідараў. “Аднак адны паразы прыводзяць да дэмаралізацыі, другія — натхняюць. Слуцкі збройны чын стаў надзвычайным прыкладам для многіх пакаленняў беларусаў у даўгім ланцугу змагання за вольную і незалежную Беларусь”, — адзначыў у часе гістарычнага экскурсу ў падзея амаль векавой даўніны прадстаўнік Згуртаванне беларусаў Вялікабрытаніі Мікола Пачкаеў.

“Усе мы Случчакі у гэты восеньскі месяц. Жыве Беларусь!» — прамовіла ў традыцыйным пасланні да суродзічаў у цэлым свеце старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла.

## “ШЧЭ ПРЫЙДЗЕ ЧАС”

“Саннікаў, Саннікаў”, — па шэрагах разносіцца шэпт. Праз імгненне ў залу, сапраўды, уваходзіць былы намеснік міністра замежных спраў Беларусі і кандыдат на прэзідэнцкіх выбарах 2010 года Андрэй Саннікаў. Зусім нядаўна стала вядома, што апазіцыйны палітык, які прабавіў 16 месяцаў за лукашэнкаўскімі кратамі, атрымаў палітычны прытулак у Вялікабрытаніі. Калі гістарычная частка імпрэзы завяршаецца, новаму эмігранту даюць слова. Ён вяртаецца да ўласнай прэзідэнцкай кампаніі ды адзначае, што для яго было важна да выбараў пабываць на Случчыне. “І я гэта зрабіў. Падчас сустрэчы з месцічамі мы ўзгадвалі і Слуцкі збройны чым і ягоных герояў. Слава героям! Жыве Беларусь!” — скончае кароткі выступ Саннікаў, выклікаючы больш-менш дружны выгук у адказ.

Потым быў яшчэ прагляд дакументальнага фільма “Слуцкі збройны чын” (рэжысёр — Уладзімір Халіп), традыцыйнае спяванне гімна беларускай эміграцыі “Мы выйдзем шчыльнымі радамі” ды цёплая сяброўская размова за хатнім пачастункам.

Магістранта Лонданскай школы эканомікі Алеся Аляхновіча, які прыехаў сюды навучацца з Польшчы, найбольш уразіла прысутнасць сярод удзельнікаў урачыстасці прадстаўнікоў старой, паваеннай хвалі эміграцыі. “У гэтых некалькіх чалавек беларушчына натуральная: духоўна, моўна, культурна. У той жа Польшчы пераважная большасць беларусаў авалодала беларускай мовай ужо ў свядомым узросце…” На думку Алеся, наяўнасць прадстаўнікоў розных узроставых катэгорый ёсць доказам сувязі ды пераемнасці пакаленняў у эміграцыі.

Пакуль гэта так, ёсць спадзеў, як выказалася шматгадовая старшыня Згуртавання беларусаў Вялікабрытаніі Лёля Міхалюк, “што прыйдзе час, калі Дзень Герояў стане афіцыйным святам у Рэспубліцы Беларусь”.

**КАСТУСЬ ЛАШКЕВІЧ, ЛОНДАН**



**Заснавальнік** ТАА “Тут і цяпер” **Адрас** г. Мінск, вул. Касцюшкі, 18
**Галоўны рэдактар** А. Уласаў (email: info@svabodaby.net) **Падпісана ў друк** 23:45 29.11.12
Тыраж 299 экзэмпляраў